**У адзінстве наша сіла!**



# САЛІДАРНАСЦЬ

№35 (306)

18-24 кастрычніка 1999 года

*Распаўсюджваецца бясплатна*

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА НЕЗАЛЕЖНАГА ПРАФСАЮЗА ГАРНЯКОЎ, ХІМІКАЎ, НАФТАПЕРАПРАЦОЎШЧЫКАЎ, ЭНЕРГЕТЫКАЎ, ТРАНСПАРТНІКАЎ, БУДАЎНІКОЎ І ІНШЫХ РАБОТНІКАЎ

## Мікола ДЗЯЛЕНДЗІК: «Людзі ведалі, што на «Маршы свабоды» іх будуць біць»



**Мікалай Мікалаевіч, у беларускім тэлерадыёэфіры яшчэ ніколі не ўсчыналі такога гвалту, як пасля "Маршу свабоды", што адбыўся ў Мінску 17 кастрычніка. Платныя хлусы аж са скуры вылузваюцца, каб гучней за сваіх калегаў аблаяць "так званую апазіцыю". У мінулы панядзелак па радыё гучалі з вуснаў журналістаў "перлы рыторыкі" накшталт "мурло оппозиции", "шабаш оппозиции", "аднадушнае" абурэнне простых грамадзян: чаму міліцыя не ўжывае зброю супраць гэтых бандытаў, іх жа прапановы стварыць для апазіцыі свой, беларускі Беламорканал, дзе, як вядома, будаўнікі-зняволеныя даходзілі да канібалізму.**

**Брыдка і жудасна слухаць усё гэта. Але адначасова прыходзіш да высновы, што падобнай па маштабнасці акцыі пратэсту яшчэ не было, і ўлады разам са сваімі прыслужнікамі не на жарт перапалохаліся. Што ж на самой справе адбывалася ў Мінску?**

Беларускае тэлебачанне паказвала, як дэманстранты закідвалі каменнямі шэрагі праваахоўнікаў са шчытамі і ў касках. Як удзельнік "Маршу свабоды" пацвярджаю: гэта было. Аднак зусім не з-за агрэсіўнасці «азвярэлага ад наркоцікаў натоўпу», як спрабуюць даказаць беларусам і ўсяму свету журналісты. Бо ў гэтым "натоўпе" ішлі нармальныя нашы суграмадзяне, якія, карыстаючыся сваім канстытуцыйным правам, хацелі выказаць пратэст супраць беспрасветнай галечы, неўтаймоўваемай інфляцыі і ўзвінчвання цэн, супраць бяспраўя, усё больш замацоўваемага антызаконнымі дэкрэтамі ўжо нелегітымнага кіраўніка дзяржавы, супраць спробаў пазбавіць яе незалежнасці і ўцягвання ў саюз з крыміналізаванай Расіяй, якая бясконца з некім ваюе...

Забягаючы наперад, раскажу пра адзін эпізод, сведкам якога я быў. Побач са мною ішлі маладая жанчына і яе сын, па выгляду васьмікласнік.

«Сынок, кажа яна, - вяртаемся назад. Вунь ужо міліцэйскі кардон, зараз будуць біць усіх нас".

«Мама, за што біць? Мы ж усяго толькі аб сваім імкненні да свабоды хочам заявіць...»

Дык вось, аб тым, што непазбежныя правакацыі з боку ўладаў, што "абавязкова будуць біць", у шэрагах дэманстрантаў не сумняваліся, напэўна, толькі дзеці. Бо без гэтага не абыходзілася практычна ні адна акцыя пратэсту, якія мелі месца ў Мінску за апошнія гады. Да гэтай жа, з-за яе аб'яўлены шматлікасці, улады рыхтаваліся асабліва старанна.

*(Заканчэнне на 2-й стар.).*

***Каля сотні вядомых дзеячоў навукі і культуры Беларусі, прадстаўнікоў яе няўрадавых грамадскіх арганізацый, незалежных прафсаюзаў звярнуліся да Генеральнага сакратара ААН, Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА, кіраўнікоў дзяржаў вялікай васьмёркі, дырэктара распарадчага Міжнароднага валютнага фонду, Генеральнага сакратара Савета Еўропы, Старшыні Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе з "Адкрытым лістом", тэкст якога прапаноўваецца ўвазе чытачоў "Салідарнасці". У ліку падпісантаў - пісьменнікі Васіль Якавенка, Янка Брыль, Святлана Алексіевіч, паэты Генадзь Бураўкін і Рыгор Барадулін, заслужаны юрыст РБ Міхаіл Пастухоў, прэзідэнт Беларускай Асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна, прэзідэнт Беларускага Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Віктар Бабаед.***

# Адкрыты ліст

***Паважанае спадарства, шаноўныя спадары!***

На зямным шары пасля Другой сусветнай вайны адбыліся карэнныя змены, і ўсё больш народаў становіцца на шлях развіцця дэмакратычных свабод, абароны правоў чалавека. У гэтай сітуацыі стала магчымым выдаленне з тэрыторыі Беларусі ўсіх ядзерных узбраенняў і 5 снежня 1994 года кіраўнікі Вялікабрытаніі, ЗША і Расіі падпісалі Мемарандум аб гарантыях бяспекі для гэтай краіны, дзе шаноўныя бакі бралі на сябе абавязацельства паважаць яе палітычную незалежнасць, яе суверэнітэт, "устрымлівацца ад эканамічнага прымушэння, накіраванага на тое, каб падпарадкаваць сваім уласным інтарэсам, ажыццяўленне Рэспублікай Беларусь правоў, уласцівых яе суверэнітэту".

Аднак, ці не забыты гэты Мемарандум сёння, калі ў Беларусі ўмацоўваецца дыктатарскі рэжым, які пачаў прасці сваю пражу пасля канстытуцыйнага перавароту 1996 года, учыненага Аляксандрам Лукашэнкам, Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь?

Беларусь - адзіная еўрапейская краіна, дзе практычна паралізавана дзейнасць легітымнага органа заканадаўчай улады - Вярхоўнага Савета. У лістападзе 1996 года па ініцыятыве А.Лукашэнкі, які парушыў Канстытуцыю, законна абраны Вярхоўны Савет быў "распушчаны", а замест яго прызначаны марыянетачны парламент.

А.Лукашэнка публічна прызнаваўся ў сімпатыях да гітлераўскага рэжыму ў Германіі і ў даверы дыктатару Слабадану Мілошавічу, дзяржаву якога - Югаславію прапаноўваў далучыць да ваенна-палітычнага саюза з Расіяй і Беларуссю, што пагражала небяспекай новай сусветнай вайны.

Ім ініцыіравана і паспешліва фарсіруецца аб"яднанне Расіі і Беларусі, што будзе азначаць для апошняй страту незалежнасці. Прычым, "беларуская карта" разыгрываецца выключна ў інтарэсах амбіцыёзнага, дэнацыяналізаванага "бацькі" Лукашэнкі, а яшчэ пэўнага круга расійскіх палітыкаў.

Мы выказваем глыбокую занепакоенасць такой перспектывай. Далучэнне Рэспублікі Беларусь да Расіі не адпавядае прынцыпам інтэграцыйных працэсаў, якія адбываюцца ў Еўропе, і дзе ўразрэз з сучаснымі тэндэнцыямі дэмакратызацыі і ўмацавання нацыянальных супольнасцей.

Утварэнне адзінай дзяржавы дазволіць А.Лукашэнку пазбегнуць адказнасці за палітычны авантурызм і эканамічныя страты, нанесеныя ім Рэспубліцы Беларусь, увайсці ў эліту расійскіх палітыкаў і на выбарах балатавацца ў прэзідэнты аб"яднанай дзяржавы. У выніку можа здарыцца, што рука гэтага неардынарнага ў здабыцці паўнамоцтваў чалавека ляжа на ядзерную кнопку Расіі. І што будзе тады?..

Папулярнасці А.Лукашэнкі ў суседняй краіне ў немалой меры спрыяе мэтанакіраваная прапаганда ягонай асобы ў расійскіх СМІ.

Новы штуршок аб"яднанню дзвюх краін надало наведванне Беларусі расейскім прэм"ерміністрам 8 верасня 1999 года. У.Пуцін і А.Лукашэнка выказаліся за падпісанне Саюзнага дагавора ў бліжэйшай перспектыве, ва ўсякім выпадку, да правядзення прэзідэнцкіх выбараў у Расіі. Нядаўна надрукаваны праект.

Лёс беларускага народа спрабуюць вырашыць у абход яго правоў на паўнацэннае і самавітае жыццё, свядомы выбар. Насельніцтва дээарыентавана ўладамі, напалохана і разгублена, не ўсведамляе таго, што робіцца ў краіне і ў якую палітычную авантуру ўцягваюць Беларусь. Ігнаруецца права беларусаў на нармальнае культурнае развіццё, душацца любыя пратэсты, скіраваныя супраць знішчэння суверэнітэту, уціскаюцца прафсаюзы, чыняцца перашкоды адраджэнню народнай царквы, нішчацца асновы беларускага этнасу і выводзіцца з ужытку беларуская мова, у дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі не дапускаюцца людзі, якія знаходзяцца ў апазіцыі да кіруючага рэжыму. Зрэшты, усё гэта вядома Еўрапарламенту і не толькі яму.

Мы даводзім да Вашага ведама, што міжнародныя дагаворы, заключаныя нелегітымным кіраўніком дзяржавы А.Лукашэнкам, а таксама фінансавыя абавязацельствы падначаленага яму ўрада не маюць юрыдычнай сілы і мусяць быць скасаваны.

У той жа час не маюць лагічнага і прававога абгрунтавання спробы некаторых палітычных сіл развітых краін з-за дыктатарскага рэжыму спыніць паступленне гуманітарнай дапамогі дзецям Беларусі, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Дзеці - заложнікі рэжыму, які да іх лёсу зусім абыякавы.

Мы просім у Прэзідэнта Расіі садзеяння ў надрукаванні гэтага ліста ў прэсе, даступнай шырокаму колу чытачоў, і патрабуем выканання сваіх абавязацельстваў у адпаведнасці з Мемарандумам ад 5.12.1994 года.

Наш настойлівы заклік, спадары, панове: унікніце ў сутнасць падзей, што адбываюцца ў самым цэнтры Еўропы, дапамажыце знайсці інструмент для цывілізаванага ўтаймавання дыктатарскіх парыванняў А.Лукашэнкі і абароны суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, падтрымайце нашы ініцыятывы па аднаўленні дэмакратычных нормаў жыцця.

У свой час выступленне Беларусі з ініцыятывай суб'екта ядзернага разбраення абавязвае супольнасць свету і найперш развітыя краіны больш уважліва ставіцца да яе ўнутраных праблемаў і захавання суверэнітэту. Мы хацелі б пазбегнуць трагедыі народаў Югаславіі.

Разлічваем на Ваша разуменне, спагаду.

***Перамовы***

## Дэкрэт №29... не заўважылі?

13 кастрычніка лідэры Незалежнага прафсаюза гарнякоў "Беларуськалія" афіцыйна дамовіліся з кіраўнікамі пра тое, што лукашэнкаўскі Дэкрэт №29 аб узмацненні працоўнай і выканальніцкай дысцыпліны будзе на прадпрыемстве дзейнічаць з істотнымі абмежаваннямі.

У праект калектыўнага пагаднення на 2000-ы год, які на разгляд адміністрацыі "Беларуськалія" прадаставіла дэпутацыя ад Незалежнага прафсаюза гарнякоў у складзе адзінаццаці чалавек, быў унесены пункт з відавочна палітычнай афарбоўкай. Сутнасць яго такая: адміністрацыя можа заключаць кантракт з тым або іншым наёмным работнікам, але толькі са згоды наёмнага работніка. Тут жа вызначаецца і роля Незалежнага прафсаюза адносна так званых "кантрактнікаў": лідэры НПГ прапаноўвалі адміністрацыі прызнаць, што і на гэтых людзей распаўсюджваецца калектыўнае пагадненне.

Як потым сказаў старшыня Незалежнага прафсаюза гарнякоў Мікола Новік, распрацоўшчыкі пагаднення такім чынам адлюстравалі меркаванне ўсяго 20-тысячнага калектыву пра сумна вядомы нарматыўны акт Аляксандра Лукашэнкі. Гэтае меркаванне, падкрэсліў Мікола Новік, шахцёры ды работнікі наземных службаў цягам жніўня - верасня ўжо выказалі на дзвюх адмысловых канферэнцыях і двух шматлюдных мітынгах у Салігорску.

Цікава, што памянёнае меркаванне падчас перамоваў з вольнымі прафсаюзнікамі ўлічылі і прадстаўнікі адміністрацыі "Беларуськалія" на чале з намеснікам генеральнага дырэктара Анатолем Жураўковым. Без лішніх дыскутаванняў, без папраўак дырэктарат прыняў згаданы пункт.

- Адміністрацыя, на мой погляд, - заўважыў Мікола Новік, - усё-такі зразумела прынцыповую грамадзянскую пазіцыю калійшчыкаў.

Паводле слоў Міколы Новіка, на перамовах Незалежны прафсаюз гарнякоў і дырэкцыя "Беларуськалія" здолелі дамовіцца яшчэ па адной пазіцыі калектыўнага пагаднення - вырашылі прыняць замест існуючай цяпер шасціразраднай тарыфнай сеткі аплаты працы сяміразрадную, што павінна падвысіць рэальны заробак пэўнай часткі наёмных работнікаў. Праўда, прадстаўнікі дырэкцыі не пагаджаюцца гэты заробак ставіць яшчэ і ў залежнасць ад умоў працы, у прыватнасці - ад экалагічнай чысціні рабочых месцаў шахцёраў.

*Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.*

**ПРИНОСИМ ИЗВИНЕНИЯ**

*В № 34 "Салідарнасці" в заметке "На актуальную тему" допущена неточность. Второе предложение второго абзаца следует читать: "Как известно, туда (в фонд социальной защиты населения) отчисляется 35% от фонда оплаты труда и 1% из заработной платы работников на пенсионное обеспечение".*

*Редакция приносит читателям свои извинения.*

# Мікола ДЗЯЛЕНДЗІК: «Людзі ведалі, што на «Маршы свабоды» іх будуць біць»

Найпершы доказ таму - нядаўняе выказванне Лукашэнкі наконт таго, што на мітынгі і дэманстрацыі ходзяць толькі "так называемая оппозиция и разное отребье". Як пасля гэтых слоў кіраўніка дзяржавы абавязаны абыходзіцца з "отребьем" праваахоўныя органы?

Другое. Арганізатары мітынгу падавалі заяўку ўладам, каб дазволіць правесці яго на пляцы Незалежнасці, потым пагаджаліся на пляц Кастрычніцкі, але ўлады не знайшлі нічога лепшага, чым Бангалор на ўскраіне горада. Хаця той фактычна пляцам і не з"яўляецца - звычайны засаджаны дрэвамі сквер, дзе мінчукі выгульваюць сваіх сабак. Загнаць туды дзесяткі тысяч чалавек - больш цынічны здзек над людской годнасцю цяжка выдумаць. І мітынгоўшчыкі гэта выдатна разумелі, што, вядома ж, лаяльнасці да рэжыму ім не прыбавіла.

**- Усё па таму ж рэспубліканскаму радыё, якое часцяком выклікае пачуццё агіды да яго, сцвярджалі, што мітынгоўшчыкам арганізатары плацілі "зялёнымі..."**

- Так сцвярджаў Міхаіл Мясніковіч. Але хай бы ён назваў, кім і каму канкрэтна выдадзены 300 тысяч долараў. Хай пакажа хоць аднаго мінчука, хто атрымаў іх, або іншагародняга, каму аплочаны праезд. Людзі ішлі бескарысліва, бо далей трываць нельга, не баючыся дубінак, турмаў, штрафаў, што могуць выгнаць з работы або навучальнай установы.

**- Зноў-такі наша "самае праўдзівае радыё" даказвала, што акцыя апазіцыі правалілася, сабраўшы не заяўленую сотню, а ўсяго некалькі тысяч. Маскоўскія тэлеканалы называлі 20-25. Колькі народу было, на Ваш погляд?**

- Мяркую, не менш за сотню тысяч. На падставе параўнання з "Чарнобыльскім шляхам" і сваіх назіранняў: такой масы народу я яшчэ не бачыў нават на колішніх першамайскіх дэманстранцыях. З нашым радыё, думаю, усё ясна. А на маскоўскіх тэлеканалах камеры ні разу не паднялі, каб паказаць усё людское мора, яны былі нацэлены толькі на першыя шарэнгі. І таксама не выпадкова: удзельнікі акцыі былі рашуча і аднадушна настроены супраць абмяркоўваемага якраз цяпер саюза з Расіяй.

Іменна небывалай колькасцю ўдзельнікаў мітынгу і шэсця пасля яго і абумоўлена разнастайнасць мер уладаў, вытанчанасць правакацый, каб або сарваць іх, або паказаць у крывым люстэрку хлусні. Дзеля гэтага ў нядзелю 17 кастрычніка большасць кінатэатраў заманьвалі мінчукоў на бясплатныя (!) фільмы. Бясплатнымі ж атракцыёнамі прылабуньвалі іх у паркі, нізкімі цэнамі - на спецыяльна арганізаваныя кірмашы. З рынкамі, праўда, выйшла няўвязка: на самых буйных, у Ждановічах і на стадыёне "Дынама", прадпрымальнікі не працавалі ў знак сваёй салідарнасці з "Маршам свабоды".

Збіраліся яго ўдзельнікі на пляцы Якуба Коласа з плакатамі "Не дадзім захапіць Беларусь!", "В Европу без Лукашенко", "Полицейскому государству - нет!", "Дыктатуры - капец!" З цалкам запоўненага пляцу рушылі ў бок Бангалора. Людзей усё дабаўлялася. Стала відавочна, што прайсці па тратуары такой масе народу не ўдасца, і пакрысе яна стала разлівацца на праспект Скарыны і заняла цалкам усю праезную частку. Тады і аднавіўся рух тралейбусаў, якія да 13 гадзін не хадзілі, людзі дабіраліся пешшу да месца збору. Выпадкова?

Але на вуліцу Сурганава звярнулі без інцыдэнтаў. Рухаліся з левага боку. Па правым рух транспарту не спыняўся. Ці не павінны былі ўлады прадугледзець, што такія калоны не ўціснуцца ў вузкія рамкі тратуараў? Не прадугледзелі. І таксама не выпадкова. Паставыя, даішнікі, праўда, не заміналі руху. І ўвогуле міліцыя за ўвесь дзень не ўступала ў канфлікт з удзельнікамі акцыі, а тыя адпаведна - з імі.

Мітынг на Бангалоры быў кароткім. А затым загучалі патрабаванні, каб з "сабачага" пляцу прайсці па галоўных вуліцах і, магчыма, дайсці да прэзідэнцкай рэзідэнцыі, засведчыць жыхарам сталіцы і Лукашэнку, што сабралася не "кучка" ў некалькі тысяч і не "отребье", а народ. Так і зрабілі.

Пайшлі па вуліцы Багдановіча, звярнулі на вуліцу Варвашэні. Дарэчы, на ўсім шляху жыхары з балконаў, уражаныя такім небывалым шэсцем, прыветна махалі нам, чаго ў час ранейшых акцый не назіралася. Паспрабавалі зноў выйсці на праспект Скарыны, але арганізатары звярнулі ўсіх убок. Калі ішлі па Першамайскай, з будынку вузла сувязі наперадзе валіў дым. Хто падпаліў? Яўна, не ўдзельнікі шэсця, а хутчэй здарылася так, як некалі гітлераўцы самі падпалілі рэйхстаг, а звалілі віну на іншых.

Каля пачатку парка Горкага наткнуліся на першы кардон, які склаўся з двух дзесяткаў амапаўцаў са шчытамі і ў касках. Спыніліся перад ім. Папрасілі прапусціць. Тым часам ззаду націскалі - усё ж многія дзесяткі тысяч людзей, паток якіх расцягнуўся на сотні метраў. Кардон быў проста ссунуты ім. Крыху далей - яшчэ адна перашкода з перапоўненых амапаўцамі УАЗікаў. Людзі проста прасочваліся паміж машынамі. На перасячэнні вуліц Пуліхава і Першамайскай шэсцю перагарадзілі дарогу аўтобусы, «Уралы» і магутны амапаўскі кардон.

Зноў спыніліся. Мікола Статкевіч заклікаў людзей павярнуць назад, і тыя падпарадкаваліся. Але на іх ззаду абрыну-ліся дубінкі АМАПу. Што рабіць тады, калі на цябе нападаюць? Або ўцякаць, або адбівацца. Раз"ятраны беспрычынным нападам народ выбраў апошняе. У ход пайшлі камені, рознае ламачча - усё, што трапляла пад рукі.

Адкуль усё гэта было ўзяць на адной з цэнтральных вуліц горада? Хіба наша сталіца нагадвае звалку? Адказ просты. Амапаўскі кардон быў наўмысна выстаўлены ў месцы правядзення рамонтных работ з беспамылковым разлікам - калі пачаць збіваць такую колькасць народу, сярод яго абавязкова знойдуцца тыя, хто будзе бараніцца. Тады можна гэта паказаць як агрэсіўны наступ натоўпу. Што і было зроблена па ўсіх тэлеканалах: град каменняў у бок "праваахоўнікаў".

Ён сапраўды быў. Некалькі разоў людзі адганялі АМАП і паварочвалі назад, але той зноў і зноў нападаў на іх з тылу. Узнікае пытанне: чаму гэтыя сітуацыі не былі паказаны ніводным тэлеканалам? Праўда, не здолелі паказаць тое, як людзі наступалі, г.зн. ішлі наперад. Бо гэтага не было.

Бойка доўжылася не менш за паўгадзіны. Было шмат крыві у абодвух бакоў. Але ж нельга бясконца супраціўляцца ўзброеным дубінкамі, адмыслова выдрэсіраваным байцам. Ды калі яны яшчэ маюць у сваім арсенале газы. Удзельнікі акцыі пачалі ўцякаць і тады пачаўся "хапун"...

Як нам вядома з афіцыйных крыніц, на 20-е кастрычніка арыштаваны 92 чалавекі, з неафіцыйных - больш за 300. Арыштаваны Мікола Статкевіч, які адразу аб"явіў галадоўку. Спрабавалі арыштаваць Паўла Жука - заснавальніка "Свабоды" і "Навінаў", але той выклікаў расійскіх тэлевізійнікаў, і пры іх гэтага зрабіць не адважыліся. Улады пакуль марна шукаюць кіраўніка "Вясны-96" Алеся Бяляцкага, лідэра БНФ Вінцука Вячорку. Поўным ходам працуе судовы канвеер. Каго штрафуюць на дзесяткі мільёнаў, дэпутату Вярхоўнага Савета Людміле Гразновай "ўляпілі" больш за 300 (напэўна, больш за ўсіх збівала амапаўцаў).

**- Мікалай Мікалаевіч, якія Вашы высновы з усяго гэтага?**

- Акцыі пратэсту будуць працягвацца і будуць яшчэ больш масавымі. Бо нашым людзям ужо няма чаго губляць. Яны пераступілі цераз свой страх. І чым больш будзе раз"юшвацца ўладны рэжым, тым большым будзе народнае супраціўленне. І тым хутчэй гэты рэжым адыдзе ў мінулае.

***Інтэрв"ю запісаў В.МУРЫЛЁЎ.***

***На "чорным" рынку за адзін амерыканскі долар патрабуюць ужо звыш 700 тысяч беларускіх рублёў. За апошнія тры тыдні рэальная вартасць нацыянальнай валюты знізілася практычна ў паўтара разы. Такіх высокіх тэмпаў інфляцыі з пачатку году яшчэ не назіралася.***

# Куды коціцца беларускі "заяц"?

Пра тое, што творыцца з беларускім рублём, насельніцтва даведваецца на рынках - адзіных месцах у Беларусі, дзе рублі можна памяняць на валюту. Нацыянальная грашовая адзінка апошнім часам падае ў цане пастаянна: штодня долар становіцца даражэйшым на 10-15 тысяч беларускіх рублёў.

У суседніх краінах падобныя падзеі ў свой час прыводзілі да гучных адставак кіраўнікоў нацыянальных банкаў і нават кабінетаў міністраў. У Беларусі галоўны банкір Пётр Пракаповіч пачувае сябе зусім спакойна - на апошняй нарадзе ў Лукашэнкі яго толькі злёгку паўшчувалі.

Тое, у што ператвораная сёння нацыянальная валюта, - з"ява драматычная для эканомікі, але большасць насельніцтва не ўспрымае гэта як надзвычайную падзею. Да высокай інфляцыі прывыкаюць гэтак жа, як да чэргаў па гарэлку і малако альбо да амаль штодзённай змены цэннікаў у крамах.

Беларускія рублі ў гэтыя дні апякаюць людзям рукі: не пазбавішся ад купюр сёння - заўтра яны абясцэняцца. Зберагчы свае сціплыя грошы можна толькі адным чынам: ператварыць рублі ў цвёрдую валюту. Зрабіць гэта законна для чалавека, які не мае доступу да банкаўскіх сейфаў, практычна немагчыма. Пункты абмену валюты ў Беларусі ўжо тры гады як ператвораныя ў загадкавую дэталь гарадскога пейзажу, якая не выконвае ніякай відавочнай функцыі.

Даводзіцца ісці туды ж, на рынак, да законспіраваных "валютчыкаў", якія, працадзіўшы цябе праз сіта праверак, адводзяць куды-небудзь у цёмны закутак кіёска альбо саджаюць у машыну.

Міліцыянтаў людзі, вядома, баяцца, але ўжо не гэтак панічна і апантана, як некалі, пасля сумна памятнага прэзідэнцкага дэкрэту № 1. Тады, тры гады таму, міліцэйскія аблавы на "валютчыкаў" былі ператвораныя ў шырокамаштабную кампанію. Канфіскаваная валюта на першым часе вымяралася сотнямі тысячаў долараў. І ва ўладаў нават была задума ператварыць гэта ў стабільную крыніцу папаўнення валютных рэзерваў.

Але з крыніцай не атрымалася. Валютчыкі спакваля наладзілі канспірацыю, і паляваць на іх стала складана. Ды і кампанія пакрысе выдыхлася як, зрэшты, і любая кампанія, што гучна пачынаецца і ціха забываецца.

У парушальнікаў валютнага дэкрэту сёння ператвораная фактычна ўся краіна. Каб зберагчы якую капейку, да паслугаў "валютчыкаў" вымушаныя звяртацца нават чыноўнікі і міліцыянты тыя самыя, якія зусім нядаўна наладжвалі аблавы, выконваючы прэзідэнцкі дэкрэт.

***Валянцін ЖДАНКО.***
***Радыё "Свабода".***

*Падумаем разам*

# Сучасная берыеўшчына. Як гэта робіцца ў Мар"інай Горцы

***У пазамінулым нумары «Салідарнасць» апублікавала частку падборкі матэрыялаў нашага карэспандэнта, дзе расказваецца, якім праследванням і цкаванням падвяргаюцца іншадумцы ў Мар'інай Горцы, як парушаюцца іх чалавечыя правы і прыніжаецца чалавечая годнасць. Сёння мы змяшчаем астатнюю частку падборкі.***

## Страх

Страх. Што гэта такое? Заглянем у тлумачальны слоўнік беларускай мовы: СТРАХ - пачуццё моцнага сполаху. Менавіта такім чынам кіраўніцтва нашага раёна вядзе канструктыўны дыялог з грамадствам. Асабліва з тымі, хто мае крыху іншую думку ад афіцыйнай...

9 верасня адбылася камісія па справах непаўнагадовых, на якой вырашалі лёс трох хлопцаў, сяброў Маладога Фронту, якія былі затрыманы за ўдзел у мітынгу 21 ліпеня, хаця на самой справе ніякіх несанкцыянаваных мітынгаў у той дзень не было. Мы пісалі ў мінулым нумары пра народныя гулянні з нагоды сканчэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А.Р. Лукашэнкі 21 ліпеня. Як ні дзіўна, але на гэты раз камісія праявіла лаяльнасць, ніякага прысуду не вынесла. Але не гледзячы на гэта, усё ж такі ціск на псіхіку маладых хлопцаў быў аказаны істотны.І шматгадзіннае затрыманне, да позняй ночы, ды і сам працэс судзілішча мусіў пасеяць страх у душах маладых патрыётаў.

Наступны крок па запужванню ўсё той жа часткі жыхароў нашага раёна адбыўся 18 верасня: быў гвалтоўна захоплены Зміцер Васьковіч. Усё адбывалася, як у лепшых дэтэктывах. А палове 11 раніцы патэлефанаваў знаёмы Зміцера і папрасіў яго выйсці да суседняга дома № 4 (Новая Зара). Зміцер, канечне, пайшоў на дамоўленую сустрэчу, але сустрэў там не свайго знаёмага, а міліцыянтаў, якія, запіхаўшы хлопца ў машыну, павезлі яго ў пастарунак. Па дарозе ў пастарунак аперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Пухавіцкага РАУС В.Д. Коль некалькі разоў ударыў Зміцера лакцём у грудзі. У пастарунку працэдура была паўторана, затым хлопец быў znяты на плёнку, а таксама ў яго ўзялі адбіткі пальцаў. Калі ж маці Зміцера, даведаўшыся аб затрыманні сына, прыбегла ў міліцыю, каб даведацца, чаму затрыманы сын, то яе з міліцыі проста выкінулі, нічога не патлумачыўшы. У чым жа вінавацілі хлопца? Пра гэта стала вядома толькі перад тым, як яго адпусцілі. Аказваецца, ён скраў два матацыклы. Праўда, крыху пазней матацыклы былі знойдзены, але не ў кватэры вядомых апазіцыянераў і не ў гаражы, дзе шукалі міліцыянты. Матацыклы былі знойдзены зусім у іншым месцы, а злодзеямі аказаліся чацвёра васьмі- і дзесяцікласнікаў Мар"інагорскай СШ № 3. Заявы ад маці пацярпеўшага 17-гадовага Зміцера Тамары Васьковіч у судзе прымаць адказаліся, матывававаўшы гэта адсутнасцю доказаў і сведкаў. Вось такая "справядлівая" судовая сістэма.

Я прывёў прыклады палітычнага пераследу, але ў нашай краіне праследуюцца не толькі палітыкі. Ціск аказваецца на ўсіх. На прадпрымальнікаў, на прафсаюзы, на грамадскія арганізацыі. Пра простых людзей я ўжо не кажу. Цяпершні рэжым трымаецца толькі на адным.

Гэта страх!

Бо людзьмі, якія баяцца, лёгка кіраваць.

*Яська Бясстрашны.*
*(Мар`інагорская незалежная газета «Адвечны шлях», №4(5) за верасень 1999г.).*

<u>Ад рэдакцыі.</u> **Мы хацелі б, паважаныя чытачы, калі вас яшчэ не адолеў гэты страх, атрымаць вашы водгукі на тое, што здарылася ў Мар"інай Горцы. Раскажыце нам у сваіх допісах , якога роду жахі мучаюць вас? Чаго вы найбольш усяго ў жыцці баіцёся? Можа, хто ведае, як гэты страх можна пераадолець?**

**Пішыце нам. І не хвалюйцеся: сапраўдных прозвішчаў аўтараў лістоў, персанажаў вашых распавядаў, месц працы друкаваць не будзем. Прынамсі, калі вы таго не пажадаеце.**

**Усяго вам добрага! Жывіце і нікога ды нічога не бойцеся!**

***Матэрыялы да друку падрыхтаваў***
***Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.***

## ПЯТНИЦА, 29 октября

### БТ

6.30 Доброе утро, Беларусь!
7.00 Новости.
7.10 Доброе утро, Беларусь!
8.15 Политические диалоги.
8.40 Потребительская корзина.
9.00 Новости.
9.10 ТВ - школе. Белорусская литература. 8-й класс.
9.35 Телебарометр.
9.50 Мультфильм.
10.05 Уроки Н.Новожиловой.
10.30 Усадьба.
11.00 Новости.
11.10 Новые имена.
11.15 **«Кофе с ароматом женщины».**
12.00 Сделано в Беларуси.
12.15 «Новая коллекция».
12.45 «Простые истории». Телеочерк.
13.00 Новости.
13.15 Первомайскому району г.Минска - 30 лет.
14.30 «По заповедным местам Беларуси».
15.00 Новости.
15.10 Сериал для детей. **«Черный пират»** 3-я серия.
15.35 «И все есть красота». Телеочерк.
16.00 Регион.
16.25 «Риск-версия».
17.00 Новости ( с/с).
17.15 «А музыка звучит...»
17.35 Наш край.
18.00 Добрый вечер, Беларусь! - «Разговор в прямом эфире», «Что делать?», «Зоовести».
18.40 МСН.
19.00 Новости.
19.15 «Сегодня с вами...»
19.45 Новые имена.
19.55 **«Кофе с ароматом женщины».**
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 Мелодрама **«Звезды Фрэнки» (Англия).**
23.35 «Мы в ответе за судьбу Содружества». Репортаж с Конгресса молодежных организаций стран ООН.
23.55 Криминальная хроника.
24.00 Белорусский хит-парад.
0.05 Новости.
0.15 Открытый чемпионат Беларуси по таиландскому боксу.

### ОРТ

08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20 Новости.
08.15 **«Нежный яд».**
09.20 «Каламбур».
09.45 Процесс.
10.25 Здоровье.
13.30 Программа «Вместе».
14.20 Приключенческий фильм **«Кольцо дракона - 2».**
14.55 КВН-99.
17.30 Телемост Москва - Киев.
18.40 Погода.
18.45 Поле чудес.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.45 Детектив **«Настоящий друг».**
22.35 «Отель».
23.40 Х/ф **«Глаза смерти».**

### РТР

06.00, 07.00, 08.00, 16.00, 18.00, 20.00, 00.00 Вести.
07.15, 23.45 Дежурная часть.
08.20, 09.00, 11.50 Гомеопатия и здоровье.
08.30 Диалоги о рыбалке.
09.10 **«Цыганка».**
10.00 **«Лето нашей тайны».** Сериал.
15.30 Мультфильмы.
16.20 «Башня».
16.55 «Слушается дело».
18.30 Агата Кристи. Пуаро. **«Коробка шоколадных конфет».**
19.25 «Городок»..
20.45 «Миллениум-99. Третье тысячелетие».

### НТВ

05.00, 05.30, 05.45, 06.00, 06.30, 06.45, 07.00, 07.30 Сегодня утром.
05.15, 06.15, 07.15 Спорт, погода.
05.20, 06.20, 07.20, 17.40 Криминал.
05.35 Карданный вал.
05.50, 07.45, 16.25 Впрок.
06.35 Мультфильм.
06.50 Большие деньги.
07.55 Сериал **«Улицы разбитых фонарей».**
09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
09.25 Телеигра «О, счастливчик!».
10.10 Мультфильм.
10.25 Служба спасения.
11.30 «Старый телевизор» вспоминает...
13.30 Сериал **«Катрин Кураж».**
14.25 «Путешествия натуралиста».
15.35 Художественная гимнастика.
16.50 Сериал **«Любовь и тайны Сансет Бич».**
18.45 «Новейшая история».
19.40 **«Крутой Уокер: правосудие по-техасски».**
20.35 «Профессия - репортер». Игорь Воеводин.
21.45 «Криминальная Россия». «Двойное убийство».
22.15 Х/ф **«Плюшевый мишка».**
23.55 «Антропология».

### ТВ-6

06.00, 12.05 День за днем.
07.45, 17.15, 21.45, 23.40 Дорожный патруль.
08.00, 10.00, 12.00, 14.00, 16.00 «Шесть новостей».
08.10, 23.20 Те Кто.
08.25 «Star Старт».
09.00 Сериал **«Полинезийские приключения».**
10.05 Сериал **«В мире женщин».**
10.55 Сериал **«Первая волна».**
14.05, 19.25 Телемагазин в Минске.
14.30 Сериал **«Просто Мария».**
15.25 «Краткий курс».
15.45 «Знак качества».
16.10 Сериал **«Путешественники во времени».**
16.40 ДИСК-канал.
17.30 Сериал **«Следствие».**
18.15 «Шоу Бенни Хилла».
19.00 «Новости дня».
19.45 Боевик **«Наемные убийцы».**
22.00 Шесть новостей дня.
22.15 ЦитаДЕНЬ.
22.25 «ОБОЗ».
23.50 «Радио хит».
00.55 Сериал **«Кувалда».**

## СУББОТА, 30 октября

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 «Мгновения». Д/ф.
8.15 Столица.
8.40 Потребительская корзина.
9.00 Новости.
9.15 «Родное слово». Тележурнал.
9.45 «Сегодня с вами...»
10.15 Здоровье.
11.40 «Вершина мира».
11.05 Компьютерный полигон.
11.30 «Все нормально, мама!»
12.05 МСН
12.25 Усадьба.
12.50 Око.
13.10 Новые имена.
13.15 «Звезды мирового футбола». «Лидеры мирового футбола».
14.00 Четвертое измерение.
14.25 Олимп.
15.00 Новости.
15.10 «Вспоминая «Золотой шлягер-Могилев-98».
15.50 Сделано в Беларуси.
18.00 Футбол. Чемпионат Беларуси. «БАТЭ» (Борисов) - «Динамо» (Минск).
2-й тайм.
16.55 Познай себя. «Особенности характера».
17.15 «По заповедным местам Беларуси».
17.40 Ток-шоу «Это моя работа».
18.10 Теннис. Профессиональный женский турнир.
18.50 Земляки.
19.40 Из достоверных источников.
20.00 Новые имена.
20.05 Бездельник.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Ш.Стоун в х/ф **«Слезы под дождем».**
23.20 Белорусский хит-парад. Итоги недели.
23.35 Видимо-невидимо.

### ОРТ

07.00, 09.00, 14.00 Новости.
07.10 Слово пастыря.
07.25 Домашняя библиотека.
07.40 **«Все путешествия команды Кусто».**
08.30 Играй, гармонь любимая!
09.10 Смак.
09.30 Программа «100%».
10.00 Комедия **«Альф».**
10.30 Утренняя почта.
11.10 Х/ф **«Закон».**
13.45 Русский музей. История одного шедевра.
14.10 Сериал **«Горец».**
15.00 Мультазбука.
15.55 Футбол. ЦСКА - «Динамо».
18.15 Комедия **«Осенний марафон».**
20.00 Время.
20.55 Погода.
21.00 Х/ф **«Невезучие».**
22.35 Триллер **«Семь».**

### РТР

07.00 **«Сказка о золотом петушке».** Мультфильм.
07.30 Папа, мама, я - спортивная семья.
08.25, 00.55 Прогноз погоды.
08.30 Почта РТР.
09.00 Доброе утро, страна.
09.35 Сам себе режиссер.
10.05 «Сто к одному».
10.50 Хорошие новости.
11.15 Золотой ключ.
11.30 Сиреневый туман.
12.00, 20.00 Вести.
12.20 Федерация.
13.00 Урмас Отт с...
14.00 «На здоровье!».
15.05 **«Приключения Астерикса».** Мультсериал.
16.00 Акуна матата.
17.00 Моя семья.
18.05 «Два рояля».
18.55 «Аншлаг» и К.
20.45 Х/ф **«Страна глухих».**
23.00 Триллер **«Крик».**

### НТВ

07.00, 09.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
07.20 Комедия **«Дочь моряка».**
08.40 **«Фитиль».** Тележурнал.
09.15 «Чистосердечное признание».
09.40 Пойми меня.
10.10 Сериал **«Конан».**
11.25 «В нашу гавань заходили корабли». Программа Э.Успенского.
12.30 Весь Жванецкий.
13.00 Комедия **«Русский счет».**
14.25 Своя игра.
15.25 «Любовные истории, которые потрясли мир». Клементина и Уинстон Черчилль.
15.55 Сериал **«Она написала убийство».**
16.50 Дог-шоу.
17.25 Герой дня без галстука.
18.40 «Итого».
19.00 Боевик **«Миротворец».**
21.45 «Женский взгляд» Оксаны Пушкиной.
22.15 Сериал **«Ее звали Никита».**
23.05 «Футбольный клуб».
23.50 Ток-шоу «Про это».

### ТВ-6

07.05, 17.30, 21.45 Дорожный патруль.
07.20 Мультфильмы.
07.45 Мультсериал **«Пуговка и рыжик».**
08.15 «Шоу Бенни Хилла».
08.55, 10.00, 16.20 Телемагазин в Минске.
09.30 «Пальчики оближешь».
10.25 «Мое кино» с Виктором Мережко.
12.00 Комедия **«Собака на сене».**
13.15 «Территория ТВ-6».
13.45 «О.С.П - студия».
14.40 «Это - Жириновский!».
15.05 Сериал **«Флиппер III».**
16.00 «Шесть новостей».
16.25 Ток-шоу «Я сама».
17.50 Сериал **«Lexx II».**
18.45 Сериал **«33 квадратных метра. Дачные истории».**
19.25 «Скандалы недели».
20.00 Худ.фильм **«Рискуя жизнью».**
22.00 Шесть новостей дня.
22.10 ДИСК-канал. Максидром.
22.50 Безумный проект «Снято».
23.05 Плейбой.

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 31 октября

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Мультсериал для детей **«Приключение в королевстве»**(Канада).
8.30 «Музыка подводного мира». Киноочерк.
8.40 Потребительская корзина.
9.00 Новости.
9.10 Мультиклуб.
9.40 Туробъектив.
10.00 «Все нормально, мама!»
10.30 «АРТ-клуб».
11.05 Арсенал.
11.30 МСН.
11.50 Сделано в Беларуси.
12.05 Телевизионный Дом кино.
12.30 Новые имена.
12.35 КВН. Чемпионат Беларуси. Полуфинал.
14.05 Теннис. Профессиональный женский турнир «Сателлит».
14.35 Сельчане.
15.00 Новости.
15.10 «На волне взаимопонимания».
15.55 «Древо жизни».
16.20 «Зорная ростань».
16.50 «Суперобраз ХХ1 века».
17.25 «Я благодарю любовь...» Творческий вечер поэта-песенника Ф.Борового.
18.50 Теленавигатор.
19.10 Новые имена.
19.15 Стадион.
19.40 Колыбельная.
20.00 Резонанс.
20.50 Ток-шоу «Карамболь».
21.25 С.Сталлоне, Р.де Ниро, Х.Кайтел в криминальной драме **«Полицейские» (США).**
23.05 Премьера песни.
23.15 Авто-парк.
23.25 Чемпионат мира по автогонкам «Формула-1». Гран-при Японии.

### ОРТ

07.00, 09.00, 14.00, 17.00 Новости.
07.10 Армейский магазин.
07.40 «Утиные истории».
08.10 Утренняя звезда.
09.10 «Непутевые заметки».
09.30 Пока все дома.
10.05 Комедия **«Альф».**
10.35 Здоровье.
11.10 Комедия **«Трынтрава».**
13.05 Клуб путешественников.
13.45 Русский музей. История одного шедевра.
14.10 Сериал **«Горец».**
15.00 Умницы и умники.
15.25 «Чип и Дейл».
15.50 «Аладдин».
16.20 Как это было. Катастрофа на Сенной площади Петербурга. 1999 год.
17.15 Смехопанорама.
17.55 Боевик **«Метро».**
20.00 Авторская программа Сергея Доренко.
20.55 Погода.
21.00 «Эх, Семеновна!».
21.40 **«Тысячелетие».**
22.35 Футбольное обозрение.
23.00 Х/ф **«Тэсс».**

### РТР

07.00 Служу Отечеству!
07.25, 00.25 Прогноз погоды.
07.30 Мультфильмы.
08.20 «Устами младенца».
08.55 Доброе утро, страна.
09.30 «Аншлаг» и К.
10.30 «Городок».
11.00 Русское лото.
11.40 Мир книг с Леонидом Куравлевым.
12.00 Вести.
12.20 Парламентский час.
13.10 **«Закон и порядок».** Сериал.
14.05 Диалоги о животных.
15.00 Старая квартира. Год 1994-й. Часть 2-я.
16.00 «Пятачок». Д/ф.
17.00 Перед «Зеркалом».
17.10 Х/ф **«Фантом».**
19.00 Зеркало.
20.00 Комедия **«Мама, не горюй».**
21.40 «К-2» представляет: программа Ивана Дыховичного «Уловка-22».
22.40 Мелодрама **«Персидские ковры».**
00.00 Дежурная часть.

### НТВ

07.00, 09.00, 11.00, 15.00 Сегодня.
07.20 Х/ф **«Солнце в кармане».**
08.30 Мультфильм.
08.40 «Фитиль».
09.15 Служба спасения.
09.40 «Полундра».
10.10 Сериал **«Конан».**
11.25 Большие деньги.
11.50 «Профессия - репортер».
12.10 Телеигра «Ключи от форта Байяр».
13.10 Детектив **«Вопреки всему».**
14.25 «Русские горки».
15.25 Путешествия натуралиста.
15.55 Сериал **«Она написала убийство».**
17.00, 20.00 Итоги.
17.40 Боевик **«Неприкасаемые».**
21.30 Куклы.
21.45 Комедия **«Ребенок к ноябрю».**

### ТВ-6

07.05, 12.00, 17.30 Дорожный патруль.
07.20 Мультфильм **«Честное слово».**
07.30 СВ шоу. Юлиан.
08.20 Сериал **«33 квадратных метра. Дачные истории».**
08.55 «Как стать звездой?» с С.Сивохой.
09.25 Те Кто.
09.45 «Ле-go-go» с Ильей Легостаевым.
10.30 Канон.
11.00 Шесть новостей недели.
11.30 «Star Старт».
12.15 «Путешествия с Ланта - Тур».
12.25 Комедия **«Собака на сене»**, 2 серия.
13.40 «Спартак» - чемпион!».
14.15 Кинескоп.
15.10 «Знак качества».
15.45 «Без вопросов».
16.15 «Репортажи о Египте».
16.25 Катастрофы недели.
17.50 Юмористическая программа «БИС».
18.20 «Вы - очевидец».
18.55 Аналитическая программа «Обозреватель».
19.55 Триллер **«Полицейский».**
22.00 Наша музыка. Филипп Киркоров.
23.05 «Новости спорта».
23.20 Триллер **«Хэллоуин».**

**Салідарнасць** Рэгістрацыйны №687 Газета заснавана ў 1991 г. **Іванам Юргевічам**

**Заснавальнікі** — калектыў рэдакцыі і Беларускі Незалежны прафсаюз гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, энергетыкаў, транспартнікаў, будаўнікоў і іншых работнікаў

**Рэдакцыйная калегія:** Бабаед В.С., Юргевіч І.В., Галубіна Н.Я., Дубіцкі А.А., Ушчапоўская С.А., Мікалайчанка А.С.

**Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць прыводзімых фактаў, цытат і іншай інфармацыі. Рэдкалегія можа друкаваць матэрыялы, не абавязкова падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

Рэдактар **Віталь Мурылёў**

**Адрас рэдакцыі:** 223710,г.Салігорск,вул.Леніна, 42, БНП. Тэл.: (01710) 2-06-22, тэл./факс: (01710) 2-00-59

Падпісана ў друк 21.10.1999 года ў 8.00

Газета аддрукавана ў друкарні г.Слуцка, 223610 г.Слуцк, вул. Багдановіча, 7

Тыраж **6000.** Заказ 3885